# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 46 (557) ГОД XI БЕЛАСТОК, 30 КАСТРЫЧНІКА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.

## У НУМАРЫ

Міхась Чарот
БОСЫЯ НА ВОГНІШЧЫ.
Панцеляймон Юр'еў
ПОМНІК СЛАВЯНСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ.
Зм. Шостак
ГАРМОНІК ПАДВЕЎ.

ПАГАВОРЫМ — ПАБАЛАКАЕМ

**Да Кангрэса Культуры будзем вяртацца не раз. Гэта была так поўная падзея, што фактычна не прамінула ніводнай з'явы ў нашым культурным жыцці ў мінулым, а таксама вельмі цвяроза патрактаваў Кангрэс развіццё і будучыню культуры, у якой...**

# КНІЖКА, ПАЧАТАК І КАНЕЦ...

Завілістымі сцежкамі прыходзіць яна. Стае ля дзвярэй. Стукае, каб пачуць запрашэнне ў хату. Кніжка — мнагазначны, багаты назоўнік жаночага роду ва ўсіх славянскіх мовах, а таксама ў многіх мовах свету. У наш час сталася сімвалам пладавітасці, як у дагістарычныя часы сімвалам такім была сама жанчына.

Я хачу гаварыць аб кніжцы з любоўю і прыгожа, бо яна — кніжка апанавала вялікі свет, прыйшла «пад страху», каб страху сарваць. Штопраўда, не дагаджае нам яшчэ цяперашні стан кніжкі. На кніжку выдаем са сваіх грошай мала — мала. На галаву выпадае ў краіне па 2 злотых у год. Для прыкладу: на гарэлку — 5 літраў чыстага спірту — у год на асобу 900 злотых. 2 і 900. На хвіліну ляжам на хвалю мараў... Глянем... Прапорцыі адвярнуліся... Сталася 900 і 2. Як мы выглядаем? Як багі?.. Не ведаю. Мары кароткія, і толькі мары. Вернемся ў рэчаіснасць.

Беласточчына належыць да раёнаў адсталых культурна. Праўда, якой няма што і скрываць. Голасна таксама трэба крычаць, што амбіцыі ў нас тут малыя. Слабая пацеха для нас саміх з нашай скромнасці. Ёсць рэчы, па якія трэба сягаць з боем.

І на Беласточчыне ёсць паветы (тыя з даўнейшых Прусаў), у якіх на пакупку кніжак на асобу выпадае ў год стольکі, як у Вроцлаўскім, Шчэцінскім, Зялёнагурскім. Але ёсць і Гайнаўскі (на жаль Гайнаўскі, дзе афіцыяльна 98⁰/₀ насельніцтва свядома прызнаецца да беларускай нацыянальнасці) і дзе на кніжкі выдаецца толькі 1 зл. і 15 гр. у год. Ёсць Бельскі (беларускі павет) — 1 зл. і 85 гр. Таксама Сямяціцкі, Сакольскі, Беластоцкі (без г. Беластока). Калі захацець пахваліцца нашым раёнам, дык трэба абмежавацца ў асноўным да рэвалюцыйных традыцый беластоцкіх беларусаў да вайны і ў першыя гады пасля вайны.

У рэвалюцыі, якую робіць кніжка, гэты раён прымае вельмі малы ўдзел. Ці загінуў рэвалюцыйны запал, ці няма палымяных прапагандыстаў (у выпадку беларускага характару гэта не без зна-

(Працяг на стар. 4)

АБЛІЧЧА БЕЛАВЕЖЫ 3)

# БЕЛАВЕЖА СЯЛЯН

Чакаючы пад адкрытым небам на цягнік, нейкі брухаты турыст гаварыў свайму сябру:

— Крычаць: Белавежа! Белавежа! А тут што? Звычайная вёска! Нават станцыі няма. Здорава прыдумалі, перон палацам назвалі, маеш табе — Белавежа Палац!

Прыкра было слухаць, але яшчэ больш прыкра робіцца, калі падумаеш, што ў многім ён мае рацыю. Белавежа сапраўды з'яўляецца толькі вёскай, ды вёскай у гаспадарчым сэнсе надта ж адсталай.

Засяляе яе звыш 500 гаспадароў, згуртаваных у трох самастойных вёсках-кварталах: Стачок, Застава і Падаляны. Маюць яны ўласных салтысоў і не заўсёды жывуць «як брат з братам». Вёскі вялікія. Стачок — 272 гаспадары, Застава — 157 гаспадароў і Падаляны — 75.

У іх распараджэнні: 672 гектары ворнай зямлі і 400 га сенажацяў. Зямля да крайнасці парэзана на палоскі. «Чэцвертушкі», «шастухі», «васьмухі», а нават «шаснаццаткі». Баразна на баразне. А калі не давалася ўжо дзяліць уздоўж, тады рэзалі ўпоперак. Гаварыў мне Мікалай Седун, што ёсць у Белавежы двухгектаровыя гаспадаркі, якія маюць зямлю ў 70-ці (сямідзесяці) кавалках.

— У мяне самога, — кажа ён, — паўтара гектара зямлі. Раскінута яна ў 18-ці кавалках.

Цяпер ужо ведаю, чаму ў Белавежы, як за дзеда-прадзеда, гаспадары ведаюць толькі жыта, авёс і бульбу, а другіх культур бы на лякарства. Для прыкладу: сёлета падалянцы ячменю зусім не сеялі, а ў Заставе і Стачку адвялі пад яго ледзь паўтара гектара. Ведаю таксама, чаму ў белавежцаў так нізкі ўраджай. У ненайгоршым па ўраджайнасці 1965 годзе сяляне Белавежскай грамады дабіліся: аўса і жыта па 13 цэнтнераў з аднаго гектара, а бульбы — 155 цэнтнераў. Праўда, тры гады таму назад было яшчэ горш, бо жыта і аўса па 12 цэнтнераў, а бульбы на цэлых 20 цэнтнераў менш. Радасць аднак ад гэтага малая. Белавежская зямля можа і павінна даць многа больш. Яна не найлепшая, але на чацвёртым і пятым класе зямлі можна яшчэ гаспадарыць даволі выдайна.

У Белавежы багацеяў няма. І не таму, што зямля слаба тут родзіць, але перш за ўсё таму, што мала яе. Палавіна белавежскіх гаспадарак — гэта агародчыкі, плошчаю да 2-х гектараў, а вышэй 5-ці га зямлі мае ў Белавежы ледзь 16 гаспадароў — 3⁰/₀.

Белавежцы дамагаюцца камасацыі сваіх палосак. Падалянцы нават рашыліся ліквідаваць цераспалосіцу грамадскім чынам. Аднак нейкіх двух гаспадароў не захацела падпісаць пагадненне, і справа спынілася.

— Паўтара года таму назад сам старшыня Жмійка абяцаў нам дапамагчы ў правядзенні дзяржаўнай камасацыі, — гаворыць гаспадар Белавежскай грамады Мікалай Седун.

Так, камасацыя белавежскіх палёў неабходна. Белавежа з'яўляецца выставачнай вітрынай нашай краіны. У гэтым годзе, як мы ўжо пісалі, Белавежу наведала звыш 50-ці тысяч турыстаў, сярод якіх многа было замежных — і то з краін, якія не адзначаюцца вялі-

(Працяг на стар. 3)



Мікравыстаўка прац (зроблена спецыяльна для аўтара здымкаў).

# НАСТАЎНІК-МАСТАК

Праз вёску Рагаўка, што ў Сямяціцкім павеце, даводзіцца праязджаць многім, але не многія бываюць у школе. Ніжэй падпісаны наведаў сямікласную школу ў Рагаўцы, а мо лепш сказаць, яе кіраўніка Яўгена Сэйбука. Да наведання яго заахвоцілі мяне працаўнікі Павятовага дома культуры ў Сямяцічах. Але пачнем ад пачатку.

Яўген Сэйбук, як многія іншыя, не шукаў спецыяльнай кар'еры, але як малады і жвавы хлопец пачаў працаваць настаўнікам, а незадоўга і кіраўніком школы. Педагагічны ліцэй у Беластоку скончыў карэспандэнцыйна. Затым уступіў у СН у Элку, дзе меў спецыялізавацца ў напрамку практычна - тэхнічных заняткаў і мастацкага выхавання. У Элку студыі не закончыў, кінуў.

— Чаму? — пытаюся Я. Сэйбука.

— Цяпер нават цяжка акрэсліць. Проста мне не спадабалася, не меў натхнення там вучыцца.

Зацікаўленасць да мастацтва, электронікі і гадзіннікавай справы (бо такі курс зацікаўленасці нашага гаспадара) піхнулі яго зноў вучыцца на гэты раз у СН у Сельцах, які закончыў у гэтым годзе. Тут навучыўся, а мо лепш пазнаёміўся з тэхнікай вырабу «патэраў» (талерак для ўпрыгожвання). Іменна ў асноўным зараз гэтым і займаецца кіраўнік школы, настаўнік, грамадскі дзеяч, майстар гадзіннікаў і электронік Я. Сэйбук. Гэта і асноўная прычына наведання намі мастака-аматара.

Сцэны цеснага памяшкання завешаны вельмі арыгінальнымі і цудоўнымі «патэрамі», попельніцамі. Некаторыя з іх, як: варшаўская Ніка і гарцэрскі крыж

(Працяг на стар. 4)



Адзінокая восень. Фота Ул. Паўлючук

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### БРАТЭРСКІ ВІЗІТ

Па запрашэнню ЦК КПСС і Савецкага ўрада ў СССР прабывалі кіраўнікі камуністычных і рабочых партый, старшыні Савета Міністраў і міністры абароны: Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Кубы, Манголіі, Польшчы, Румыніі і Чэхаславакіі. Як сцвярджае выданае пасля заканчэння візіта камюніке, пазнаёміліся яны з дасягненнямі навукі і тэхнікі СССР, аглядалі сучасныя ваенныя і авіяцыйныя абсталяванні. Госці пабывалі таксама на касмадроме і назіралі запуск спутніка.

### З НІВЫ ААН

У мінулым тыдні закончыла абрады сесія Генеральнай Асамблеі ААН. Пачалася праца ў паасобных камісіях. На Сесіі ставілася многа спраў рознымі делегатамі. Дамінавалі такія справы як: неабходнасць заканчэння дэкаланізацыі, універсалізм ААН, а ў сувязі з тым прыняццё ў члены арганізацыі Кітайскай Народнай Рэспублікі, усе праблемы раззбраення і бяспекі народаў, справа расісцкай палітыкі ў Радэзіі і іншыя. В'етнамская тэма ставілася найчасцей. Аказалася, што на 109 дэлегатаў, якія забіралі голас у дыскусіі, толькі 7 прамінула в'етнамскую праблему і толькі 19 падтрымала палітыку ЗША. Аж 83 дэлегацыі асудзілі або неадобрылі палітыкі Злучаных Штатаў. Усе яны давалі да зразумення, што адзінай сапраўднай развязкай в'етнамскага канфлікту з'яўляецца палітычная, мірная развязка згодная з пажаданнямі в'етнамскага народа без якой-небудзь чужой інтэрвенцыі.

### У ПОШУКАХ ПАДТРЫМКІ

Прэзідэнт Джонсан прысвяціў некалькі дзён падарожжу па краінах Паўднёва-ўсходняй Азіі. Мэты гэтага падарожжа зразумелыя. Прэзідэнт ЗША шукае большай падтрымкі вайны ў В'етнаме. Не робіць гэтага выпадкова. Здае ён справу з таго, што заходнія саюзнікі (апрача Бона) не вельмі хваляць амерыканскую агрэсію ў В'етнаме. У сувязі з гэтым Джонсан вымушаны шукаць падтрымкі на Далёкім Усходзе. Як паведамляе заходняя прэса, вынікі і атмасфера візіта не найлепшыя. Найважнейшым у падарожжы прэзідэнта ёсць канферэнцыя ў Маніліі. Злучаным Штатам не разыходзіцца аб тое, каб 6 краін, якія заангажаваліся на баку ЗША, давалі больш мілітарны ўклад, але аб маральную падтрымку.

### ЭКСПЕРЫМЕНТЫ Ў КАЛГАСАХ

Савецкая прэса перадае, што арганізацыйныя эксперыменты праведзеныя ў некаторых калгасах прыносяць добрыя вынікі. Паасобныя 400—500-гектаровыя адрэзкі зямлі **перадана для апрацоўкі** на цэлы год **5—6-асабовым калектывам.** Калектывы гэтыя поўнасцю адказныя за вынікі прадукцыі на гэтай дзялянцы і як прэмію атрымоўваюць з яе частку ўраджаю. Калектывы ў сваё карыстанне атрымалі па 3 трактары і камбайн. Пры мала змеханізаванай апрацоўцы прымянялася нават надзелы адрэзкаў **паасобным жанчынам.** Вынікам эксперыментаў былі многа вышэйшыя (да 100 працэнтаў) плёны.

**АК.**

## БССР

### СПАСЦЯРОГІ

Чытанне каталога «Тематический план издательства «Беларусь» на 1967 год» насоўвае агульныя спасцярогі і інфармацыі цікавячыя нас.

Трэба лічыць пазітыўнай з'явай тое, што выдавецкая прадукцыя беларускай прозы пачынае дараўноўваць паэзіі. З'яўленне добрай прозы ў літаратуры сведчыць аб яе сталасці. Ісціна даўно вядомая і вартая тут паўтарэння. На 1967 год плануецца выдаць 27 кніжак новай, свежай прозы і 32 кніжкі новай паэзіі. Некаторыя беларускія празаікі пішуць на рускай мове, здабываючы такім чынам магчымасць друкавацца ў большых тыражах.

Сярод беларускіх празаікаў асаблівай увагі заслугоўвае Уладзімір Караткевіч, чароўны талент у прозе на беларускай мове. У наступным годзе выйдуць у свет дзве яго кніжкі пад агульнаю назваю «Каласы пад сярпом тваім». Гэта вялікая аповесць пра беларускае жыццё ў палове XIX ст. аж да часоў паўстання Кастуся Каліноўскага. Выйдзе з друку зборнік апавяданняў «За акном дождж» І. Хадановіча, таленавітага празаіка, які трагічна загінуў.

Вядомы беларускі паэт Пятрусь Макаль, які паходзіць з нашай Беласточчыны, рыхтуе да друку новую кніжку вершаў «Акно». Несумненна, цікава будзе пазнаёміцца са зборнікам беларускіх вершаў «Белая Русь» М. Стрыгалёва, маладога паэта, інжынера, які працуе на Далёкім Усходзе.

Вельмі мізэрныя планы выдавецтва «Беларусь» у галіне эдыцый твораў пісьменнікаў сацыялістычных краін. Запланавана выдаць усяго адну кніжку. Гэта «Балгарскія апавяданні» ў перакладзе на беларускую мову. Хацелася б бачыць у перакладзе на беларускую мову творы польскіх пісьменнікаў, хаця б тых, якія прыслужыліся да папулярызацыі беларускай літаратуры ў Польшчы. Напрыклад, творы Яўгеня Кабаца, перакладчыка «Трэцяй ракеты» Васіля Быкава, ці творы Карповіча або Яворскага, перакладчыка беларускай паэзіі і вядомага паэта.

Даволі багатыя планы «Беларусі» ў галіне друку дзіцячай літаратуры. Звяртаюць увагу вялікія тыражы гэтых кніжак — 50 або 70 тысяч экземпляраў. Выдаецца на рускай мове казка Міхася Машары «Кукушкины слёзы» ў тыражы 200 тысяч экземпляроў. Для дзяцей старэйшага ўзросту выдаецца больш кніжак на рускай мове.

У сваім рэпартажы «У сэрцы славянскай Швейцарыі», напісаным у выніку паездкі ў Беларусь, заўважаў я, што беларусы — народ шматмоўны. Гэта відаць і па планах выдавецтва «Беларусь». На беларускай мове выдаецца тут толькі мастацкая літаратура і літаратурная крытыка, друк песень адбываецца ўжо найчасцей на двух мовах: беларускай і рускай. Іншая літаратура спецыялістычнага характару выдаецца толькі на рускай мове. Гэта спасцярога вельмі істотная, каб зразумець цяперашнюю Беларусь.

**Сакрат Яновіч**

## ПОЛЬШЧА

### 10-СЯЦІГОДДЗЕ VIII ПЛЕНУМА ЦК ПАРП

У кастрычніку г. г. мінула дзесятая гадавіна гістарычнага VIII Пленума Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, у выніку якога на чале ЦК стаў тав. Уладзіслаў Гамулка, а разам з ім вярнуліся ў кіраўнічыя органы другія выдатныя дзеячы. VIII Пленум ЦК ПАРП запісалася таксама шматважнымі гаспадарчымі пастановамі, якія накіравалі нашу краіну ў русла буйнага развіцця.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ПЯЦІГОДКА

У цяперашняй пяцігодцы за кошт 143 мільярды злотых агульная сельская прадукцыя мае павялічыцца на 14% у параўнанні да папярэдняй пяцігодкі. Дзякуючы шырокаму прымяненню штучных угнаенняў шматзначна прадбачваецца павялічыць ураджай збожжа, бульбы, буракоў і другіх сельскагаспадарчых культур. Жывёлагадоўля павялічыцца аж на 18%.

### ПГР ЗАЛЕССЕ

Знаходзіцца ў Кашалінскім ваяводстве і лічыцца адной з лепшых дзяржаўных гаспадарак у краіне. Сярэдні ўраджай збожжавых культур склаў тут 30 цэнтнераў з аднаго гектара, а бульбы — 269 цэнт/га. Сярэднія гадавыя надоі малака ад адной каровы дасягаюць 4120 літраў. Рабочыя жывуць у добра абсталяваных дамах, а для дзяцей ёсць дзе гуляць.

### ВОДАПРАВОДЫ

Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народу Кялецкага ваяводства апрацаваў грунтоўны план пабудовы водаправодаў ва ўсіх вёсках свайго ваяводства. 17 сярод запланаваных водаправодаў ужо дзейнічаюць. Зараз будуецца далейшых 23 водаправоды. Да 1970 года вада паплыве трубамі ў хаты звыш 100 вёсак. Апрача гэтага некалькі вёсак у Белабжэскім павеце атрымала газ з варшаўскага газаправода.

### ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

Да 1970 года Міністэрства сувязі намерана пабудаваць яшчэ 10 новых тэлевізійных станцый. Між іншым Беласток атрымае другі запасны перадатчык. Дазволіць гэта глядзець польскую тэлевізійную праграму для каля 90% насельніцтва краіны.

У 1968 годзе пачнецца будова тэлецэнтраў у Лодзі і ў Варшаве для патрэб другой праграмы. Тэлецэнтры будуць абсталяваны апаратурай польскай прадукцыі.

Недзе пад канец г. г. або на пачатку наступнага года будзе ў Польшчы зарэстраваны 2,5-мільённы тэлевізар. Штогод прыбывае нам каля 400 тысяч тэлевізараў. Усё яшчэ больш іх у гарадах, чымсьці ў вёсках.

### НЕШЧАСЛІВЫЯ КАНСТРУКТАРЫ

Жыхары горада Пётркуў Трыбунальскі — 17-цігадовы Ігнась Балінскі і 18-цігадовы Андрэй Патрыярха — вырашылі збудаваць лодку з рэактыўным рухавіком. Зараз абодва маладыя канструктары знаходзяцца ў бальніцы. Іх рэактыўны рухавік узарваўся ў час першай пробы запуску лодкі.

## ВАЯВОДСТВА

### НОВАЯ ШКОЛА

Вёска Сяміхочы ў Сямяціцкім павеце атрымала нядаўна новую школу. Яе пабудова каштавала каля 3-х мільёнаў злотых. Грамадскі чын сялян ацэньваецца на 100 тыс. зл. У новай школе — 6 класных залаў, фізічна-хімічны кабінет, гімнастычная зала і абсталяванне санітарнае ды цэнтральнага абагравання.

### НУРЭЦКАЯ ПОШТА

З нагоды «Дня працаўнікоў пошты» ў Сямяціцкім павеце падвялі вынікі спаборніцтва за найлепшую пошту. Найлепшай аказалася пошта са станцыі Нурэц. Другое месца заваявала Чартаеўская пошта.

### МАЛАДЫЯ РЭВАЛЮЦЫЯНЕРЫ

26 кастрычніка г. г. адбылася ў Беластоку папулярна-навуковая сесія прысвечана гісторыі і змаганням такіх прагрэсіўных маладзёжных арганізацый як: ЗМВ «Віці», ОМТУР, ЗВМ, ЗМД і ЗГП. Арганізатарам сесіі з'яўляецца Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі.

### З ЖЫЦЦЯ ПАРТЫІ

Ва ўсіх паветах адбываюцца зараз пленарныя пасяджэнні павятовых камітэтаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі, якія падводзяць вынікі двухгадовай дзейнасці партыйных арганізацый. Пад канец г. г. або на пачатку наступнага адбудзецца пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта ПАРП.

### ДНІ САВЕЦКАГА ФІЛЬМА

Перыяд паміж 4 а 11 лістападам з'яўляецца на Беласточчыне «Днямі савецкага фільма». Жыхары ваяводства змогуць пабачыць 10 новых і некалькі старых, ужо вядомых, кінакарцін савецкіх рэжысёраў.

### ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ

Экзекутыва Ваяводскага камітэта ПАРП правяла аналіз грамадскіх чынаў у гонар 1000-годдзя Польскай Дзяржавы. Аказваецца, што вартасць працы выкананай грамадскім чынам аблічваецца на 670 мільёнаў злотых. Праца грамадскім чынам канцэнтравалася перш за ўсё на пабудове дарог. Дзякуючы ахвярнасці людзей ваяводства ўзбагацілася на 647 кіламетраў добрых дарог, 24 масты і многа другіх неабходных збудаванняў. Грамадскім чынам насельніцтва дапамагала будаваць 12 школ, 3 дамы культуры, 24 святліцы і 21 спартыўную пляцоўку. На першае месца высоўваецца Сямяціцкі павет, а зараз за ім Гайнаўскі, Беластоцкі і Лапскі паветы.

### ЗДАРОЎЕ Ў ПГР-ах

У дзяржаўных сельскіх гаспадарках Беласточчыны адкрыта ў апошнім часе 22 лекарскія пункты і 6 зубалячэбных кабінетаў. Знаходзяцца яны ў аколіцах найбольшага згуртавання ПГР-аў. Запланавана адкрыць яшчэ новыя пункты медыцынскай дапамогі работнікам дзяржаўных сельскіх гаспадарак.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 30.X.

8.30 Politechnika TV. Geometria wykreślna — „Obroty i kłady" cz. II; 9.05 Politechnika TV. Chemia — „Dysocjacja elektryczna"; 9.35 32 lekcja jęz. ros.; 9.55 Politechnika TV. Matematyka — „Pojęcie funkcji" cz. I; 10.25 Przerwa; 10.55 Program dnia; 11.00 „Węgierskie instrumenty ludowe" (Budapeszt); 11.30 PKF; 11.40 Wiad. dz. TV; 11.50 „Zakochani rowerzyści" — film fab. węg.; 13.30 „Godzić czy sądzić" — rep. film.; 13.45 „Przemiany"; 14.10 Dla dzieci: „Smocza legenda"; 15.00 Spraw. sportowe; 16.00 „Z opowieści Księgi Nihongi" — program baletowy; 16.30 „Refleksje"; 17.00 „Most" — film tv pol. („Czterej pancerni i pies"); 18.00 „Wesele w Tracji" — montaż bułgarskich melodii ludowych i tańców (Sofia); 18.45 „Portrety" — (film); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Divertimento Opus-3". Wykonawcy: I. Cembrzyńska, K. Jędrusik, M. Czechowicz, B. Kobiela, R. Polak, B. Pawlik; 20.30 Słownik wyrazów obcych; 20.50 Niedziela sportowa; 21.10 „Był sobie dziad i baba" — film fab. radz.; 23.00 Wiadomości sportowe.

PONIEDZIAIEK, 31.X.

16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: film „Przygody Błękitnego Rycerzyka"; 17.10 Dla młodych widzów: „Skarby w szufladzie"; 17.30 „7 milionów młodych"; 17.45 „Gorąca linia"; 18.20 „Spacerkiem po kinach"; 18.50 TV Magazyn Postępu Technicznego; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Skarb po polsku"; 20.15 Teatr TV: „Ożenek Rembrandta" Honoriusza Balzaca; 21.25 „Na półkach księgarskich"; 21.55 „Zza krat" — —filmowy program historyczno-dokumentalny; 22.10 Dz. TV.

WTOREK, 1.XI.

13.00 Program dnia; 13.05 Wiad. dz. tv; 13.15 „Jesienią w Kampinosie" — film pol.; 13.25 „Droga przez cmentarz" — film fab. radz.; 14.55 „Arcydzieła muzyki prezentuje Leonard Bernstein"; 15.35 Dla dzieci: „Gdyby księżyc miał skrzydła"; 16.05 „Kraina Tysiąca Cudów" — film fab. przygodowy austr.; 17.35 Recital fortepianowy De Sire N'Kaona; 18.05 „Losy polski" — reportaż filmowy; 18.35 „Życie" — monodram Ernesta Brylla; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Drewniane Krzyże" — film. fab. fr.; 22.00 Wiadomości sportowe.

ŚRODA, 2.XI.

9.55 Dla szkół (kl. VII) „Maszyny zdobywają wieś" („Wychowanie obywatelskie"); 10.30 „Dr Kildare" — film; 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: „Elektrostatyka"; 12.25 Przerwa; 16.00 33 lekcja jęz. ros.; 16.20 Program dnia; 16.25 „Przypominamy, radzimy"; 16.35 PKF; 16.45 „Czajki nie śpią w nocy" — film radz.; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Do widzenia, boćku"; 17.20 Teatr Jednego Aktora: Carsen Mc Cullers — „Dudek"; 17.35 „Nie tylko dla pań"; 17.55 Wszechnica TV; 18.25 „Sylwetki X Muzy"; 18.55 „Pod znakiem jakości"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Gry i zabawy" — film pol.; 20.10 „Dr Kildare" — film; 21.00 „Światowid"; 21.30 XVII Festiwal w Dubrowniku; 22.00 Dz. TV; 22.15 „Skrzyżowanie dróg".

CZWARTEK, 3.XI.

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia: „Strzały w Sarajewie; 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół (kl. VII) „Spotkanie z Jerzym Broszkiewiczem"; 12.25 Przerwa; 16.25 35 lekcja jęz. franc.; 16.45 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci „Kino Ptyś"; 17.20 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 17.40 „Na zdrowie"; 18.00 „Kwadrans zagadek"; 18.15 „To, co najlepsze"; 18.45 Widowisko z cyklu „Rozmowy z cieniem". Prowadzi — J. Waldorff; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 Reportaż filmowy; 20.15 „Ślad w oceanie" — film fab. radz.; 21.35 „Za naszą i waszą"; 22.05 Dz. TV; 22.25 33 lekcja jęz. franc.

PIĄTEK, 4.XI.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii „Jedność materialna świata"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. I) „Na drogach i szosach"; 13.00 Przerwa; 14.55 Program dnia; 15.00 Dla młodych widzów: „Pionierski cyrk" (Charków); 15.30 Przerwa; 16.25 33 lekcja jęz. ang.; 16.45 Program dnia; 16.55 Wiad. Dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla dzieci: „Bella i Sebastian" — film; 17.40 Dla młodych widzów „Pamiątka z podróży"; 18.00 „Azymut"; 18.30 „Wielokropek"; 18.50 Wszechnica TV: „Opowieści z myszką"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 Gdański Teatr TV: „Za tych, co na górze" Jerzego Jesionowskiego; 21.30 „10 minut recenzji"; 21.40 „Śpiewa Edyta Piecha" — film radz.; 22.10 Dz. TV; 22.30 33 lekcja jęz. ang.

SOBOTA, 5.XI.

10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia: „Jak powstaje mapa"; 11.25 „Między brzegami" — film fab. pol.; 12.45 Przerwa; 16.20 Program dnia; 16.25 Program tygodnia; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego"; 17.40 „Tam, gdzie powstanie miasto"; 18.05 „Spotkania z przyrodą"; 18.30 „Tele-Echo"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Pegaz"; 20.45 „Belphegore czyli upiór Luwru" — film; 21.10 Dz. TV; 21.25 Wiadomości sportowe; 21.35 Program rozrywkowy; 22.35 „System" — film fab. ang.

 

# Гутарка пра вясковыя клубы

Першы вясковы клуб «Руху» ў Беластоцкім ваяводстве ўзнік у вёсцы Угова ў Лапскім павеце. Потым пасыпаліся другія. Каштоўную ініцыятыву пераняло энергічнае кіраўніцтва вясковага гандлю Гайнаўскага павета. Пачалі ўзнікаць «Клубы селяніна». Цяпер дзейнічае на Беласточчыне аж 380 вясковых клубаў, шэфства над якімі трымаюць або прадпрыемства «Рух» або Гмінныя спулдзельні сялянскай самапомачы. Клубы сталіся асноўнымі ачагамі культурнага жыцця ў вёсках.

Каб заахвоціць вясковыя калектывы, якія гуртуюцца вакол вясковых клубаў, да больш змястоўнай ды разнастайнай дзейнасці і выкарыстання існуючых магчымасцей, многія грамадскія арганізацыі і дзяржаўныя ўстановы супольна аб'явілі восенню мінулага года вялікі конкурс на найлепшы вясковы клуб. Былі пакліканы павятовыя і ваяводская конкурсныя камісіі. Вядучай арганізацыяй у гэтым каштоўным мерапрыемстве з'яўляецца **Саюз вясковай моладзі.** Таму звярнуліся мы да старшыні Ваяводскага праўлення СВМ з просьбай, каб расказаў нам аб выніках гэтага конкурсу. Гаворыць **Станіслаў Крушнеўскі:**

— Да конкурсу прыступіла амаль 100 клубаў (без аднаго). У тым ліку: 65 клубаў «Руху» і 34 клубы селяніна. Конкурсныя камісіі, ацэньваючы працу клубаў, бралі перш за ўсё пад увагу ўзровень і якасць працы ў самым клубе, дзейнасць клуба ў вясковым асяроддзі, яго ўплыў на гэтае асяроддзе і грамадскую актыўнасць Рады клуба, якая існуе пры кожным клубе. Гэта асноўныя арыенціры нашай ацэнкі. Агульна кажучы, конкурс паказаў, што моладзь чуецца гаспадаром свайго клуба. Для прыкладу: у вёсцы Казінцы, Беластоцкага павета, каб здабыць грошы на цікавую дзейнасць свайго клуба, моладзь заснавала суполку для вырабу будаўляных матэрыялаў. Рабілі, скажам, пустакі, прадавалі іх, а грошы аддавалі на фонд дзейнасці клуба.

Конкурс дапамог нам разгарнуць культурна-асветную дзейнасць у вясковым асяроддзі. Многа было сустрэч з пісьменнікамі, журналістамі, з афіцэрамі войска. Узнікалі гурткі любіцеляў тэатра і тэлебачання, асабліва тэлевізійнага тэатра. Супольна глядзелі тэлевізійныя і тэатральныя пастаноўкі, а потым спрачаліся за іх змест. Дзейнічалі ў клубах школы здароўя і асветна-палітычныя курсы. Шырока прыняўся звычай на безалкагольныя танцавальныя вечарыны. Наглядаем вельмі пацяшальную з'яву: **у вёсках памалу фармуецца новы мадэль вясковай танцавальнай вечарыны, а вясковая моладзь адчувае запатрабаванні на новыя якасці культурнай стравы. Гарэлка — так, але не перш за ўсё, танцы — так, але не выключна. Прывіваюцца ў вёсках больш складаныя формы праваджэння свабоднага часу.**

Некаторыя клубы, як у Райгродзе, Граеўскага павета, наладзілі цікавае супрацоўніцтва са школьнікамі і малодшымі дзяцьмі. Арганізавалі для іх розныя конкурсы, гульні і дзіцячыя тэатры. Асабліва гэта важна ў перыяд накаплення работы ў полі.

Першае месца ваяводская конкурсная камісія прызнала для клуба «Рух» у вёсцы Угова, Лапскага павета. Не, не таму, што быў ён першым у ваяводстве. Ацэньвалася праца. Клубам гэтым ужо сёмы год кіруе вельмі здольная дзяўчына — Барбара Шымборская. Яна — выдатная актывістка нашай арганізацыі, патрапіла сарганізаваць сабе актыў ахвотных да працы людзей. Трэба вам ведаць, што Угова доўгі час славілася як разбойніцкая вёска. А цяпер у клубе часта наладжваюць безалкагольныя гульні.

Узнагароды атрымалі яшчэ 5 іншых клубаў у ваяводстве. Найлепшым клубам у Гайнаўскім павеце аказаўся клуб у **Ласінцы,** у Бельскім павеце — клуб у **Страблі,** у Сямяціцкім павеце — клуб у **Нурцы,** а ў Сакольскім павеце — клуб у вёсцы **Снічаны.** Клуб у **Дуброве Беластоцкай** знайшоўся сярод гэтых пяці ўзнагароджаных.

Конкурс «За найлепшы вясковы клуб» будзе прадаўжацца. За год зноў ацэнім іх працу, і напэўна зноў выяўляцца новыя якасці культурна-грамадскага жыцця вясковага асяроддзя.

Запісаў **В. Рудчык**





# Культурны агляд

### СПАТКАННІ НА ВАРШАЎСКАЙ

Праўленне аддзела БГКТ горада Беластока ўвяло новую форму працы: спатканні з вучонымі з розных галін навукі і культуры. Пасля кожнага спаткання для яго ўдзельнікаў высвятляецца фільм. Спатканні адбываюцца ў кожную апошнюю нядзелю месяца. Запрашаем на Варшаўскую 11.

### БЕЛАСТОЦКІЯ ПАМЯТКІ

Папулярныя халупнікі (Аб'яднанне халупнікаў і народных вытворцаў) другі раз прабуюць арганізаваць конкурс на памяткі. Памятка — рэч дробная, а ў нас на Беласточчыне ў дзейнасці халупнікаў дамінуе мата, дыван, кошык. Варта аднак зацікавіцца дробнымі вырабамі народных умельцаў. Навошта турыст мае купляць на Беласточчыне дробную рэч з Кракаўскага. Здаецца і нашы мастакі хочуць прыступіць да конкурсу памятак.

### У ТЭАТРЫ

Мы ўжо падавалі інфармацыю аб прэм'еры «Шклянай менажэрыі» Уільямса ў Беластоцкім тэатры. Зараз паказваем здымак з яе і... найлепшую, найбольш поўную актрысу **Карыну Васькевіч** у ролі маці ў гэтай п'есе.

### ПАСЛЯ КАНГРЭСА

Пачалася акцыя спатканняў з дэлегатамі. Вельмі добра гэта і цікава. Клубы горада Беластока былі першымі, якія ўжо на трэці дзень пасля Кангрэса арганізавалі спатканне з дэлегатамі. Рыхтуецца да гэтага і Беларускае таварыства.

### БЕЛАСТОЦКІ СІМФАНІЧНЫ АРКЕСТР...

належыць да спраўных культурных арганізмаў. У папулярызацыі музычнай культуры на немузыкальнай Беласточчыне зрабіў многа. Робіць у далейшым. **Дырэктар Куляшэвіч** рыхтуе серыю цікавых канцэртаў для ўсіх.

### СКОКАМ-БОКАМ ПА БЕЛАРУСКУЮ КНІЖКУ

Цяжка здабыць беларускую кніжку для нашых беластоцкіх бібліятэк. Тым больш цікавую. Абы чаго ніхто цяпер не чытае. Але скокам-бокам удалося заўчасу дастаць БГКТ і Ваяводскай бібліятэцы каталог навінак на 1967 год. Заказ у БССР зложаны. Многа кніжак для дзяцей.

### А ЗА ТОЕ, ШТО БЫЛО — ДЗЯКУЕМ!

Ваяводская бібліятэка ў Беластоку выслала спецыяльную падзяку БЕЛОКС-у ў Мінск за кніжкі, якія ад іх атрымала ў чэрвені гэтага года — разам 139 кніжак. Цешыцца **дырэктар Малеўскі** і ўсё наракае, што... мала.

**Вера Леўчук**

(Працяг са стар. 1)

# Белавежа сялян

кай прыхільнасцю да нашай народнай айчыны. Белавежа гаспадароў будзе для іх прыкладам сельскай гаспадаркі ў цэлай краіне.

Але ці толькі камасацыя? Белавежскія агародчыкі астануцца надалей агародчыкамі, калі нават знойдуцца ў адным кусочку.

Добрая гаспадарка — гаспадарка змеханізаваная. Сельскагаспадарчыя гурткі дзейнічаюць у Заставе (26 членаў) і ў Стачку (22 члены). Маюць толькі абмалотачныя агрэгаты. Трактару, нават пасля камасацыі, няма дзе ў Белавежы развярнуцца.

Маглі б белавежскія гаспадары зарабіць на агародніне. Іх 2—5-гектаровыя гаспадаркі якраз дасканала надаюцца для вырошчвання агародніны. Турыстам толькі давай радыску, маркоўку, бурачкі, агурцы і ўсё іншае. Гайнаўская «Вітаміна» за дзевяць месяцаў г.г. даставіла ў Белавежу featurenай агародніны на суму амаль у 400 тысяч злотых. Гэтыя тысячы маглі б знайсціся ў кішэнях белавежцаў.

На конце белавежцаў вялікая сума нявыкарыстаных грошай дзяржаўнага фонду развіцця сельскай гаспадаркі. А калі б сельскагаспадарчыя белавежскія гурткі захацелі за гэтыя грошы пабудаваць цяпліцы? Штосьці такое планаваў белавежскі ГС. На жаль, усё закончылася толькі на планах.

Над дахамі белавежскіх дамоў густа стырчаць высокія мачты тэлевізійных антэн. Як правіла, адна накіравана на Беласток, а другая на Брэст. Адкуль тады белавежцы бяруць грошы на так каштоўныя пакупкі?

Працуюць у лесе, у шматлікіх прадпрыемствах Нацыянальнага парку, возяць турыстаў, даюць ім начлегі (360 ложкаў) па 18 зл. за ноч, збіраюць грыбы і жалуды.

— А маладыя ад нас уцякаюць, — з сумам сцвярджае Мікалай Седун.

Шкада, яны змаглі б пераўтварыць белавежскія вёскі ў сады і агароды.

**В. Рудчык**

ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ

# ПОМНІК СЛАВЯНСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

У вытокаў славянскага кнігадрукавання, поруч з першымі друкаванымі кнігамі выдаваўшыміся на Літве, Беларусі, у Маскве і на Украіне, — мы сустракаем адзін з найбольш старадаўніх помнікаў славянскага друкарскага мастацтва, — «АКТОІХ» выдадзены ў Кракаве ў 1491 годзе. Гэтая кніга, паяўленне якой на многа апярэдзіла першыя кнігі друкаваныя ў Маскве Іванам Фёдаравым, была выдадзена кракаўскім мешчанінам Святаполкам Фіёлам.

Выданне гэтай кнігі з'явілася вялікай культурнай падзеяй у жыцці славянскіх краін і адкрыла далёка не апошняе палітычнае значэнне. Характэрна, што менавіта паяўленне гэтай кнігі звярнула ўвагу некаторых літоўска-беларускіх вяльмож на значэнне друкарскага мастацтва. У пазнейшыя гады рабіліся неаднаразова спробы завесці на Літве ўласнае кнігадрукаванне славянскіх кніг. Фіналам гэтых стараннняў з'явіўся пераезд на Літву і на беларускія землі маскоўскага «друкарскіх спраў мастака» Івана Фёдарава.

Паяўленне ў свет «Актоіха» кракаўскага друку, выдадзенага дзякуючы Святаполку Фіёле, відаць цесна звязана з літоўска-беларускімі коламі таго часу і з Масквою.

Узнікненне славянскага кнігадрукавання ў Кракаве яшчэ перад тым, як у гэтым жа годзе пачаліся друкавацца кнігі на польскай мове, — мае сваю цікавую гісторыю. Каралеўскі двор у гэтую эпоху ў значнай ступені складаўся не толькі з польскіх але і літоўска-бе-

(Працяг на стар. 5)




Докончана бысь сиа книга у великомъ градѣ оу
краковѣ при державѣ великаго короля полскаго
казимира. и докончана бысь мѣщаниномъ краковь
скымъ швайполтомъ фѣоль.

Калафон (выходныя даныя) «АКТОІХА» Святаполка Фіёлы. 1491 год.



 

 

А. Баршчэўскі, В. Швед.

# Дружба і праца

## БОСЫЯ НА ВОГНІШЧЫ

(Скарочана)

— Пажар на Усходзе!
Таварышы, ур-р-ра!
— Што вы, шалёныя, годзе!
Што вам не шкода дабра?
Усё, што збіралі вякамі,
Сёння марнее ў агні...
— Маўчы! Мы цябе кулакамі,
Чуеш? Ні-ні!
Цэрквы, палацы, харомы —
Памяць мінулага — з дымам!
Што не запалім мы — зломім!
Знізу наверх ўсё падымем!
Страшна вам? страшна?
Пажару агонь ломіць вочы?
Затое нам відна ўночы...
Не ліце крыві — не пагасне.

Маліцеся, грэшныя, небу,
Рукі ўгору узняўшы,
Вас не паслухаюць хмары.
Таварышы!
Што нам трэба?
—Пажа-ары!

3

І палае мур струхлелы,
Іскры скачуць па страсе.
Раптам вецер, вецер смелы,
Крыж чырвоны нам нясе.

— Адным крыжам будзе болей, —
Шэпча змучаны народ...
На крыжы чытаюць «Воля».
— Братцы! Гляньце на Усход!

То ж агонь, агонь збавення
Нам нясе Чырвоны Крыж.
— Братцы, песню вызвалення!
Люд гаротны, што маўчыш?

Панясласяя песня волі
Між лясоў густых, балот...
І аб лепшай вольнай долі
Стаў ля рэчкі пець чарот.

4

Крыжы... курганы на балоце...
Зарослыя дзёрнам магілы —
Усё ў вогненай зноў пазалоце:
Бушуюць дзве страшныя сілы, —

Змагаюцца: праца з багаццем:
Свет новы жыццё ўтварае.
Зышліся дзве моцныя раці,
І праўда няпраўду змагае.

Глядзяць, пацяшаюцца людзі,
Зюзюкаюць бабы паціху:
— Цяпер мо' і нам добра будзе?
Забудзем бяду ўсю і ліха!
Баіцца наш пан-непаседа,
Нябось, яго кончыцца песня!
— Не будзем больш мець дармаеда.
Да працы сам пойдзе, аж трэсне!

11

Не ціхне бура. Стогне лес...
На ўсе лады віхура свішча!..
Лясун стары к русалкам злез
Спраўляць над возерам ігрышча.

Чырвоны колер ціхіх хваль...
У іх відаць адбітак неба.
І з тых краёў, дзе смерць і боль,
Руччы крывавыя шле неба.

Русалкі скачуць з лесуном.
Музыка грае — «бух ды бразь!»
І вось, хто спаў адвечным сном, —
Усплыў над возерам — «сам князь!»

Не далі спаць. Вайна, агонь
Руйнуе ўсю яго краіну.
Пад ім стаяць не хоча конь.
І кліча князь сваю дружыну...

Русалак рогат... Ночы ціш...
Пужаюць князя над вадою...
Адказ чуваць: «Чаго крычыш?
Твая дружына там, з табою».

— А дзе паслушны мой народ?
Ён за мяне ў бойцы ляжа!..
І чуе шум крывавых вод:
— Цяпер ён сам сабою княжыць!

І злосна князь рвануў каня,
Падняў уверх пярэдні ногі, —
На ўсход зірнуў, дзе золак дня,
Дзе кроўю змочаны дарогі...

Вось чуе раптам — «бух ды бразь!»
У саму поўнач ціхай ночы...
І зноў паплыў на дно наш князь,
Закрыўшы шлемам твар і вочы.

Блакітна-белы князя цень
Заслаў ўсё возера туманам,
І ходзяць хвалі ноч і дзень,
Шумяць і вечарам і рана.

Лясун, русалкі там рагочуць,
К сабе ўсіх маняць, кажуць: «Глянь!»
Ў вадзе чырвонай шмат хто хоча
Уночы бачыць князя здань.

19

Мы — дзеці краіны,
Дзе бура бушуе...
Мы на прадвечных руінах
Працы палац пабудуем,
Не любяць нас — босых,
Хто век быў абуты...
На нас узіраецца скоса,
Хто, як і мы, быў закуты...
І вы, хто гімны пеў гаротным,
Хто ў цемру слаў жыцця праменні, —
Ў руках трымаеце камені
І нас пабілі бы ахвотна.
А можа Чырвань Сонца Волі
Вам асляпіла раптам вочы...
А помніце, як вы кляліся
Братам, сялянам і рабочым,
Што вы не здрадзіце — ніколі?!
Пявун не прапяяў тры краты,
Вы — адракліся...
Супастаты!!!
Без вас раць наша узрастае,
Рады шчыльнеюць, крэпне дух!
Вы чуйце! Песня не сціхае:
«Паўстань, хто з голаду век пух!..»

20

Бягуць яны... Іх рукі, ногі
Ў крыві... пякуцца на агні...
Куды бягуць яны дарогай,
Дзе страшна ехаць на кані?
Яны баяцца спатыкнуцца, —
Не ўсякі будзе верны конь...
Хутчэй каня яны нясуцца
З агню ў агонь і праз агонь...
Пакуты крыж чырвоным крыжам
Яны наважылі змагчы...
Што шаг — пабеда бліжай, бліжай,
Іграйце песню, трубачы!
Тру-ру-ру, тра-та-та!
Гэй, за намі, бедната!
На дарозе макрата...
Тру-ру-ру, тра-та-та!
Тухне вогнішча ў крыві, —
Песню іграйце: «дзінь-дзі-ві!»
Каго зловіш — разарві,
Хто не наш — таго даві...
Босы хто — за намі ўслед,
Хто убогі, хто раздзет...
Гэй, за намі— ў новы свет...
Цёпла там і там прастор,
Небасхіл там повен зор...
Там спачынеш, бедната...
Тру-ру-ру, тра-та-та!
Бягуць яны... Іх ловяць вочы
Золата сонечны прамень,
Які і родзіць з цемры ночы
Вялікай будучыні дзень...
Што шаг — пабеда бліжай, бліжай...
Штандар чырвоны на плячы...
Чым крыж цягнуць — лепш стаць пад крыжам...
Іграйце песню, трубачы!!!

**Міхась Чарот**

1. Ахарактарызуй жанр паэмы.
2. Якія з эпізодаў паэмы набліжаюцца да оды?
3. Растлумач сімвалічны сэнс загалоўка паэмы.
4. Чаму паэт прадстаўляе рэвалюцыю ў выглядзе буры і пажару?
5. Выпішы з твора незразумелыя страфы і радкі і паспрабуй іх растлумачыць з цэлым класам.

### Звесткі з тэорыі літаратуры

#### ПАЭМА

Паэма — вершаваны твор з разгорнутай падзеяй і сюжэтам. Класічнымі ўзорамі паэм з'яўляюцца старажытныя творы «Ільяда і Адысея», прадстаўляючыя выдатныя падзеі з гісторыі Грэцыі. Да асабліва буйнага развіцця жанра паэмы прычыніўся рамантызм. Паэмы сустракаюцца ў творчасці такіх рамантыкаў як Байран, Міцкевіч, Пушкін. У беларускай літаратуры першую паэму «Гапон» напісаў В. Дунін-Марцінкевіч. На найвышэйшы ўзровень узвялі паэму Я. Купала — «Курган», «Магіла льва», «Бандароўна», Я. Колас — «Новая зямля», «Сымон музыка», «Рыбакова хата». Паэмы пісалі і пішуць многія іншыя беларускія пісьменнікі.

#### ОДА

Вершаваны твор, заснаваны ў старажытнай Грэцыі. Першапачаткова быў прызначаны для праслаўлення багоў, кесараў, дзяржаўных перамог або магутнасці і прыгажосці прыроды. У оды заўсёды ўзнёслы, урачысты настрой і пахвальны, панегірычны тон. У беларускай літаратуры жанр оды пачаў развівацца ў часы «Нашай нівы» (1906 — 1915), і асабліва пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Да жанру оды можам залічыць твор Я. Купалы «Арлянятам», З. Бядулі «Беларусь», З. Жылуновіча «Кастрычнік». Да прыродаапісальнай оды можам аднесці тую частку паэмы «Сымон музыка» Я. Коласа, якая пачынаецца ад слоў: «Як прыгожа — прывабны вы зоры».

### Біяграфічны даведнік

Чарот Міхась — 1896—1938 (сапраўднае прозвішча Міхась Кудзелька). Беларускі паэт. Выдаў рад паэм: «Босыя на вогнішчы», «Карчма», «Марына», «Чырвонакрылы вяшчун», «Ленін». З'яўляецца аўтарам зборніка апавяданняў «Веснаход» і п'ес «На купалле» і «Мікітаў лапаць».

### Наш план на лістапад

6 — Янка Брыль: «Новыя хваляванні» (нарыс з пабыўкі ў Польшчы); 13 — Алесь Якімовіч: «Чарнавочка»; 20 — Пімен Панчанка: «Маё і тваё маленства»; 27 — Павел Кавалёў: «Сапраўдныя сябры».

(Працяг са стар. 3)

# ПОМНІК СЛАВЯНСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

ларускіх і ўкраінскіх вяльмож. Пры двары караля ва ўсеагульным ужыванні была беларуская мова, на якой гаварылі беларускія вяльможы, усходні абрад быў натолькі ў тыя часы распаўсюджаны ў краіне, што нават касцёлы палякі называлі царквамі. У вялікай пашане быў візантыйскі жывапіс. Гэтаму зусім не трэба здзіўляцца, таму што «кірыліца» (славянскі алфавіт) ад дзесятага да чатырнаццатага стагоддзя была ў Польшчы ва ўсеагульным ужыванні і толькі пазней пачала выціскацца «лацінкай».

Відавочна, што не сам Святаполк Фіёла, які з'яўляўся кракаўскім мешчанінам, ні яго настаўнік, які навучыў кракавяніна друкарскага майстэрства і пазней стаў яго дзейным памочнікам у выдавецкай справе, — немец Франк, не валодалі тымі навуковымі ведамі, якія былі патрэбны ім як выдаўцам першых славянскіх кніг. За імі стаялі, зразумела, шматлікія вучоныя і больш, чым яны, адукаваныя людзі. Некаторых з іх мы ведаем. Гэта перш за ўсё Ян з Глаговы, паляк усходняй веры, бліскучы знаўца славяна-рускай мовы і шматлікіх іншых моў. Ён з'яўляўся выхаваўцаю праваслаўнага літоўска-беларускага князя Івана Гаспольда. Кракаўскі канонік Шыман Старавольскі паказвае, што ў Кракаве друкаваліся славянскія кнігі перакладзеныя з грэчаскай мовы Янам з Глаговы. Выдавецкая справа была фінансавана Янам Галерам, пра якога вядома, што ён меў доступ да караля. Мы не маем дадзеных і не можам таму прасачыць, хто іменна быў ініцыятарам прадпрыемства кракаўскай друкарні Фіёлы. Больш чым магчыма, што за кулісамі гэтага мерапрыемства стаяў менавіта Ян з Глаговы, тым больш, што два гады раней ён спецыяльна выязджаў у Маскву, дзе працаваў у бібліятэцы рукапісаў, якая з'яўлялася адной з найбольш багатых па колькасці назваў не толькі на Русі, але і наогул у Еўропе. У Маскве Ян з Глаговы займаўся перакладам з грэчаскай на славянскую мову. Пераклады яго былі зроблены відавочна з разлікам на акрэсленага заказчыка. Хто ж мог быць такім заказчыкам?

Маюцца сляды, што ў 1489 годзе ў Вільна прыехаў з Кракава спецыяльны прадстаўнік Кракаўскай акадэміі нейкі Шэфер, — відаць немец па паходжанню. Ён праводзіў пошукі старых славянскіх рукапісаў. Магчыма, што візіт Шэфера ў Вільне ў нейкай ступені звязан з выдавецкімі пачынаннямі Фіёлы.

З Масквы Ян з Глаговы прывёз шматлікія, зробленыя ім нанава з грэчаскай мовы, пераклады. Гэтымі перакладамі вельмі цікавіўся, і не толькі па рэлігійных прычынах, каралеўскі двор. Не забываем, што ў гэты час кароль і яго акружэнне рабілі своеасаблівую «стаўку» на ўсход, імкнучыся да далейшага тэрытарыяльнага пашырэння сваіх уладанняў. Як паказвае ў 1623 годзе Капісценскі — «каралева Ядвіга чытала славянскую біблію, а да выразумлення ёй мелі выклады атцоў святых славянскай мовай». Як бачым «усходні» ўплыў моцна яшчэ трымаўся пры каралеўскім двары.

Прыезд у Кракаў князя Цверскага, б'ючага каралю чалом ад Русі цверскай, яшчэ больш пабудзіў надзеі караля. Друкарня Фіёлы «прышлась да часу» — на працягу няцэлага года было выдадзена пяць вялікіх кніг.

Паяўленне славянскай друкарні прыцягнула да сябе ўвагу таксама і праціўнікаў «усходніх тэндэнцый». За імі многім бачылася замацаванне літоўска-беларускага ўплыву пры двары, далейшага вылучэння літоўска - беларускай шляхты. Каралеўская апазіцыя рашыла дзейнічаць. У пачатку 1492 года Фіёла быў пастаўлены перад духоўным лацінскім судом, хаця сам ён быў несумненна «русінам» усходняга абраду. Суддзі аднак баяліся дражніць караля і перацягнуць струну, — ва ўсіх у памяці быў яшчэ Балеслаў Смялы, які прыгаварыў кракаўскага епіскапа Станіслава да смерці. Фіёла стаў перад судом па абвінавачанню не звязаным з ерассю. Суд абмежаваўся ліквідацыяй друкарні. Так закончылася гісторыя першай славянскай друкарні ў Кракаве, цесна звязанай з літоўска-беларускімі прыдворнымі коламі.

# З жыцця БГКТ

10-га кастрычніка адбылося пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім. Прысутныя абмяркоўвалі дзейнасць аддзела за трэці квартал і супольна накрэслілі план працы да канца гэтага года. Вырашана, што кожны член праўлення ў чацвёртым квартале выедзе два разы да прыдзеленага яму вясковага гуртка БГКТ. Галоўныя заданні абслугоўваючаму гурток: арганізацыйная дапамога, заахвочванне да мастацкай самадзейнасці і да падпіскі «Нівы».

Праўленне аддзела многа часу прысвяціла справам існуючага хора БГКТ. Усе, разам з мясцовымі ўладамі сцвярджаюць, што хор гэты вельмі патрэбны, што робіць ён сваімі канцэртамі карысную работу, аднак да гэтага часу не мае сталага памяшкання для развучвання далейшага рэпертуару і дасканалення мастацкага ўзроўню вывучаных песень.

У пасяджэнні ўзяў удзел арганізацыйны кіраўнік ГП Лявон Другавец.

* * *

Гайнаўскае праўленне аддзела БГКТ намагаецца арганізаваць эстрадную групу. Ёсць ужо нават чалавек, які заняўся мастацкім бокам эстрады. З'яўляецца ім настаўнік Віталі Макац — абсальвент музычнай школы. Справы ўтварэння эстрады былі галоўным пунктам пасяджэння праўлення аддзела БГКТ, якое адбылося 12 кастрычніка. Праўленне аддзела падкрэслівае ў сваіх справаздачах, што добра ўкладаецца супрацоўніцтва з аддзелам культуры Прэзідыума павятовай рады народовай і з кіраўніцтвам павятовай бібліятэкі.

Звернута ўвагу і на тое, што ў гэтым годзе колькасць членаў БГКТ на Гайнаўшчыне ўзрасла на 180 чалавек, а падпісчыкаў «Нівы» ў кастрычніку ёсць больш 2500. Далей слабым месцам з'яўляецца аплачванне членскіх складчын.

У гэтым пасяджэнні ўзяў удзел член Прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі і арганізацыйны кіраўнік ГП Лявон Другавец.

Аляксандр Баршчэўскі быў дэлегатам на Кангрэс Польскай Культуры. Расказаў ён прысутным аб працы Кангрэса. (мх)



 

 



## Падшыпнікі з пластмасы

Кожны, хто мае нейкую сельскагаспадарчую машыну або матацыкл, ведае, што найбольш клопату ствараюць падшыпнікі (ложыска). Яны з'яўляюцца даволі важнымі элементамі кожнага механізма. Яны карэнным чынам аблягчаюць узаемнае супрацоўніцтва розных дэталяў падчас руху машыны. Таму матэрыял, з якога робяцца падшыпнікі, павінен адзначацца асабліва высокімі якасцямі.
Англійскія канструктары стварылі падшыпнікі са спалучэння пластмасы з металам. Яны адзначаюцца тым, што не патрабуюць пастаяннага смаравання алівай. Складаюцца з трох слаёў: сталі, бронзы і пластмасавай смалы. Выпрабаванні паказалі, што новыя падшыпнікі без дабавачнага смаравання могуць вытрымаць у легкавой аўтамашыне 160 тысяч кіламетраў, а ў грузавіку — 80 тысяч кіламетраў. Новы падшыпнікавы матэрыял даецца лёгка фармаваць. На здымку бачым розныя формы падшыпнікаў зробленых з гэтага матэрыялу.

**Нейтрына**

## Рэнтгена-тэлевізія выкрывае рака

Лекары даўно марылі аб тым, каб можна было прасвятляць пры сонечным, дзённым святле. I вось апошнім часам гэта здзейснілася. З дапамогаю прышла прылада званая **фоташклографам,** штосьці ў родзе ўзмацняльніка святла. Пры дапамозе гэтых жа ўзмацняльнікаў удалося перадаць рэнтгенаўскі здымак на экран тэлевізара. У аддзеле рэнтгеналогіі Інстытута клінічнай і эксперыментальнай хірургіі Міністэрства аховы здароўя РФССР ёсць устаноўка «ПТУ-4», якая спалучае ўсе лекарскія кабінеты ў адну рэнтгена-тэлевізійную сістэму. На экране тэлевізара відаць лёгкія хворага, якога аглядаюць у суседнім пакоі. Пры дапамозе «ПТУ-4» можна **выкрываць рака нават у пачатку яго развіцця.** Рэнтгена-тэлевізійны агляд можа выкрываць заганы ў працы сэрца, туберкулёз, рака страўніка, нарывы страўніка, і то ў іх пачатковым развіцці. (ака)

## Чаго баяцца жанчыны?

Гэтае пытанне паставіў сабе адзін англійскі псіхолаг, прысвячаючы некалькі гадоў даследванню прычын жаночага страху. Урэшце выдзяліў ён каля 100 з'яў, якія найчасцей прыводзяць жанчын да перапуду; з іх яшчэ выдзяліў дванаццаць найбольш сур'ёзных прычын. Потым іх склаў паводле чаргі. якая мае паказваць, чаго жанчыны баяцца найбольш. Вось чаго:

1. старэць;
2. таўсцець;
3. публічна выступаць з прамовамі;
4. аставацца ноччу адной;
5. пакрыўджання пачуццяў бліжняга;
6. таго, каб нашыя дзеці нас не расчаравалі;
7. прызнання за несімпатычную асобу;
8. крытыкі;
9. каб не пакінуў той, каго кахаюць;
10. выгляду замала жаночага;
11. **выгляду занадта жаночага;**
12. **мышэй, вужоў і павукоў.**

Правільна ўсё, ці не? (а-лів)

## Арыгінальная будоўля

*Недалёка чэшскага горада Лібэрэц, на вяршыні гары Эстэд, вышынёй у 1012 м пачата будова вежы перадатачнай тэлевізійнай станцыі. У вежы будзе змяшчацца: невялікая гасцінніца (24 пакоі), рэстаран, памяшканні для персаналу, перадатчык і кавярня для вялікай колькасці турыстаў, якіх несумненна будзе прыцягваць гэтая арыгінальная будоўля. Чаму аднак такая форма вежы?*
*Гэта аднак фантазія архітэкта, а разыходзіцца пра тое, каб вежа магла супрацьпастаўляцца ветру, якога хуткасць дасягае тут 80 км у гадзіну, і на такіх сценах не будзе затрымоўвацца снег.* (мф)

**Усё аб фільме**

## Марыся і Напалеон

Гэта новы польскі фільм. Камедыя. А само здарэнне, якое скрываецца пад загалоўкам фільма — гэта каханне, раман Напалеона — імператара Францыі і полькі Марысі, званай паняй Валеўскай. Якімі былі гістарычныя факты? Пазнаёміўся з Марысяй Напалеон на пераломе 1806—1807 гг. У 1810 годзе жэніцца з аўстрыйскай княжной Марыяй Людвікай і зрывае ў асноўным кантакт з полькай, якая ў тым жа годзе родзіць сына — Аляксандра — пазнейшага міністра замежных спраў за панавання Напалеона III.
А фільм? Ён з дозай іроніі і сатыры паказвае здарэнне на пачатку. Паказвае яго кулісы, за якімі скрываўся тадышні арыстакратычны варшаўскі свет.
Змест. Французскі вучоны Напалеон Беранжэ едзе ў Варшаву на з'езд. Прыпадкова затрымліваецца ў Валявіцах. У даўнейшым палацы спатыкае прыгожую дзяўчыну, Марысю, вельмі ж падобную да нарысаванай на партрэце даўняй пані Валевіц — вялікага кахання імператара Банапартэ. Беранжэ паддаецца ігры ўяўлення, адыходзіць у мінулае.
Дзяўчына — гэта ўжо пані Валеўская. ён сам імператар Напалеон. Момант знаёмства: Варшаўскі карнавал, залёты Напалеона, гордая Марыся адказвае «не», старанні варшаўскай арыстакратыі, каб Марыся аднак «у імя Айчыны» сказала «так». Але якраз да патрыятычных пачуццяў Марысі далучаецца і сэрца. Пані Валеўская шчаслівая з імператарам, ён закаханы — сыпле годнасці, раздзяляе маёнткі, стварае Варшаўскае Княства. Візіт у Варшаве аўстрыйскай княжны Марыі Людвікі і справы прымушаюць Напалеона ехаць. Марыся вяртаецца ў Валевіцы, родзіцца сын. Пані Валеўская чакае, а Напалеон маршыруе на Маскву. Не заедзе ў Валевіцы.
Ізноў наш час. Француз і Марыся, як тыя даўней, пакахаліся.
Фільм іскрыцца ад добрых прозвішчаў: Марыся — Бэата Тышкевіч, Напалеон — Густаў Галюбэк, іншыя — Касабудзкая, Рудзкі, Кабеля, Глінскі, Жураўскі, Краснавецкі, Каціняк. Рэжысёр — Ежы Кавалеровіч. (вл)

**На здымку: галоўныя героі фільма: «Марыся і Напалеон» — Бэата Тышкевіч і Густаў Галюбэк.**

## ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ «П-Т-ІКС»

Й ГОРНУНГ

### МЁРТВЫЯ МАЎЧАЦЬ

Генерал Зуфенхаузен нервова шпацыраваў па свайму кабінету, калі ад'ютант далажыў, што прыбылі капітан Модэль і доктар Фаут. Генерал у гэты дзень быў у кепскім настроі. Фірма «Сімпэкс» не выканала ў тэрміне заказы на пастаўку будаўнічых матэрыялаў для Атлантычнага вала, і на галаву генерала Зуфенгаузена пасыпаліся маланкі з ОКВ.
У дадатак да ўсяго камісія, якая прыехала на інспекцыю будаўніцтва, выявіла, што цэмент, пастаўлены фірмай «Сімпэкс», вельмі дрэннай якасці і трываласць яго невысокая.
— З якога часу пастаўляе вам цэмент фірма «Сімпэкс»? — спытаў адзін з членаў камісіі.
— Ужо год, — адказаў генерал.
— Вельмі дрэнна. Калі цэмент быў заўсёды такога гатунку, умацаванні, пабудаваныя з яго, не вытрымаюць агню і рассыплюцца пасля першых жа выстралаў. Трэба праверыць. Гэта дыверсія, — сказаў член камісіі, спыняючы петушыны погляд на Зуфенгаузене. Генерал пад гэтым поглядам абліўся раптам халодным потам. Вядома, ён прымаў розныя падарункі і даволі вялікія сумы грошай ад Дзюпона ўзамен за заказы фірме «Сімпэкс», але аб гэтым ніхто не мог ведаць. Няўжо Дзюпон прагаварыўся? Генерал адразу ж адкінуў гэтае падазрэнне. Мёртвыя маўчаць. Некалькі дзён назад на аўтастрадзе паблізу Антверпена ў вялікай варонцы ад бомбы знайшлі мізэрныя рэшткі аўтамабіля Дзюпона.
Пры думцы аб гэтым генерал адчуў палёгку і, паклікаўшы ад'ютанта, загадаў прасіць абодвух у кабінет.
— Чым магу служыць? — спытаў Зуфенгаузен, калі Модэль і Фаут увайшлі ў кабінет.
— Мы з абвера, — прадставіўся Модэль. — Шукаем чалавека, які падтрымліваў шырокія кантакты з камандваннем вермахта і дырэкцыяй будаўніцтва Атлантычнага вала. Чалавек гэты з'яўляецца шпіёнам.
Хвіліну Зуфенгаузен раздумваў. Рысы гэтага чалавека, апісаныя Модэлем са слоў уладальніцы віллы ў Муленбеку, поўнасцю адпавядалі выгляду Дзюпона. Так, не было сумнення ў тым, што шукалі дырэктара фірмы «Сімпэкс». Узяць хоць бы той жа самы цэмент... Аднак генерал ведаў, што прызнавацца ў знаёмстве з гэтым чалавекам было б небяспечна.
— Панове, — звярнуўся ён да Модэля, — вы, відаць, маеце на ўвазе былога дырэктара фірмы «Сімпэкс»? Тут, у Брусэлі, ён меў службовыя адносіны шмат з кім. На жаль, панове, вы спазніліся. Дырэктара гэтага няма ў жывых. Некалькі дзён назад ён загінуў. Гэтай справай займаўся маёр Майер.
Сапраўды Модэлю і Фауту не заставалася нічога іншага, як накіравацца да Майера, хоць шэф брусельскага аддзялення абвера непрыязна ставіўся да людзей, якія ўмешваліся ў яго справы. Аднак на гэты раз Майер прыняў іх вельмі дабразычліва і паабяцаў дапамагчы ў правядзенні следства па справе Дзюпона і фірмы «Сімпэкс». Фаут разлічваў, што такім шляхам абверу ўдасца выкрыць сувязі Дзюпона з Парыжам, куды ён часта ездзіў па справах фірмы. Смерць Дзюпона, праўда, вырвала адно звяно ў ланцугу следства, якое павінна было прывесці да выкрыцця і ліквідацыі разведвальнай сеткі рускіх, але абодва афіцэры не трацілі надзеі, што расследаванне дзейнасці фірмы «Сімпэкс» прывядзе іх на след таямнічага «Жыльбера». Фаут меркаваў, што цэнтр савецкай разведкі знаходзіўся ў Парыжы, бо ўсе шыфраграмы з указаннем задач разведвальным групам у Берліне, Галандыі і Бельгіі перадаваліся з гэтага горада за подпісам «Жыльбер». Многія з гэтых радыёграм адрасаваны былі «Кенту», якога ў часе следства цалкам ідэнтыфікавалі з асобай Дзюпона.
Цяпер ужо Фаут і Модэль не сумняваліся, што яны на правільным шляху. Трэба было толькі адшукаць людзей, з якімі «Кент»-Дзюпон трымаў сувязь у Парыжы. Нарэшце ў выніку расследавання і допытаў персаналу фірмы супрацоўнікі абвера даведаліся, што Дзюпон быў у кантакце з парыжскай фірмай «П'ер Лярус і сыны», якая таксама супрацоўнічала з вермахтам. Гэтая вестка вельмі ўсцешыла Фаута.
— Ну, на гэты раз ім не выкру-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## І што далей?

Артыкул Яновіча «Мае роздумы» прачытаў я тады, калі ў «Ніве» быў апублікаваны «Ліст Сакрату Яновічу» Мікалая Прашковіча з Мінска. Гэта мяне зацікавіла. Я зразумеў, што многія займаюцца праблемамі не пад сваю «сілу». Рашаючы сур'ёзныя праблемы, кіруюцца яны ўнутраным настаўленнем, без навуковага падыходу да праблемы.

Я ведаю Яновіча асабіста, як здольнага чалавека. Ведаю яго заслугі ў першых гадах існавання «Нівы». Я ўспрыняў яго артыкул, як роздумы, якія вынікаюць з яго ўнутранага настаўлення. І гэта вельмі добра, што так сталася, бо дапамагае звярнуць большую ўвагу ўсіх чытачоў на гістарычнае мінулае народа і дапамагае бачыць сучаснае ва ўласцівых размерах.

Факты гісторыі застаюцца нязменнымі, змяняецца толькі іх каментар — часта па той прычыне, што яны нявыгадныя таму ці іншаму.

Я чакаў, што многія выкажуць сваю думку аб артыкуле Яновіча, указваючы адначасова на няправільнасць яго поглядаў. У асаблівасці чакаў таго ад дзеячоў Беларускага таварыства. А тут паявіўся адзін верш Міхася Красоўскага на сатырычнай старонцы «Нівы». Культура добрых звычаяў не дазваляе, каб усмерчанае цела сталася ахвярай крукоў... Хачу гэтым сказаць, што тут можна выказацца так, як гэта зрабіў Прашковіч з Мінска. Гэта патрэбна і разважна. Ён прыводзіў прыклады, пераконваў, абражаўся за выдумкі, як быць павінна. Хто-небудзь мог бы прывесці яшчэ іншыя факты. Выбачце, але не вершам.

У нас мгр Мікалай Гайдук часта займаецца падобнымі праблемамі. А тут Красоўскі паклаў канец! Неяк ужо далей разважаць.

**Мікалай Снарскі**
Даратынка

## Актыўнасць падупала

На пачатку 1966 года ў Кнышэвічах з ініцыятывы павятовага раднага і члена Павятовага камітэта ПАРП у Саколцы таварыша Івана Чэховіча арганізаваўся сельскагаспадарчы гурток. Нававыбранае праўленне гуртка ўзялося да працы. Было пастаноўлена купіць трактар і ўсе сельскагаспадарчыя машыны. У гэтай справе звярнуліся яны да павятовых улад. У Саколцы атрымалі адмоўны адказ, таму, што згодна з новай пастановай сельскагаспадарчыя машыны групуюцца ў паасобных вёсках — цэнтрах і імі будуць карыстацца суседнія сельгасгурткі.

Новая пастанова магчыма што добрая, але яна падрэзала актыўнасць у членаў кнышэвіцкага сельскагаспадарчага гуртка. Кнышэвічы павінны карыстацца сельскагаспадарчымі машынамі з гуртка ў Бабіках.

**А. С.**
Сакольскі павет

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ „НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:** Сколькі каштуе развод і хто гэтыя кошты пакрывае? Сколькі каштуе выступленне адваката і ці адвакат абавязкова мусіць выступаць у гэтай справе?

**Адказ:** Пасля таго, калі ў суд будзе ўнесена справа аб развод, суд вызначае часовую аплату ў граніцах ад 300—3000 зл. беручы пад увагу перад усім матэрыяльную сітуацыю істца. У рашэнні суда аб разводзе вырашаецца справа канчатковай аплаты. Ад яе адлічаецца тое, што заплачана ў форме часовай аплаты на карысць таго, хто яе заплаціў. Суд пры гэтым вырашае, у якім размеры муж і жонка павінны несці судовыя выдаткі. Яны могуць абцяжарваць абоіх, калі развод наступіў у выніку віны мужа і жонкі, або толькі аднаго з іх, калі толькі з яго віны наступіла разлажэнне супольнага жыцця. Калі ў выніку гэтага вырашэння акажацца, што ісцец не нясе судовых выдаткаў, або належыцца ад яго менш, чымсьці ён заплаціў пры ўнясенні справы, то суд засуджвае гэтую суму на яго карысць ад адказчыка.

Няма абавязку, каб сторану замяшчаў у справах аб развод — адвакат. За вядзенне справы ў павятовым судзе (аж да абвяшчэння рашэння) адвакат мае права ўзяць ад 500—1500 зл. і 20% на адміністрацыйныя кошты. У другой інстанцыі, калі ў павятовым судзе выступаў той самы адвакат, належыцца 50%, а калі іншы — 75% папярэдняй аплаты.

## Стымул узросту пагалоўя

Добрыя пародзістыя бугаі гарантуюць павелічэнне колькасці высакаякаснага быдла. У грамадзе Нараўка дзесяць гаспадароў маюць ліцэнцыяваных бугаёў. Аплачваецца сялянам іх гадаваць. За пакрыццё каровы ліцэнцыяваным бугаём плоціцца 80 зл. А кожны член воднай суполкі, калі гадуе ялоўку і калі яна пакрытая ліцэнцыяваным бугаём, атрымоўвае льготы ў форме 100 кг збожжа і 400 кг бульбы ў абавязковых пастаўках. Такі падыход да развіцця жывёлагадоўлі садзейнічае хуткаму ўзросту пагалоўя. (мх)

## ПАКАЗВАЮЦЬ МІЛІЦЫЯНЕРЫ







9 кастрычніка г.г. у Бельску міліцыя наладзіла паказ спраўнасці і дрэсіроўку сабак. Мерапрыемства выклікала ў бяльшчан вялікае зацікаўленне, што і адлюстроўваюць здымкі нашага фотакарэспандэнта А. Паўлоўскага. Сапраўды, трэба не абы-якой спраўнасці, каб на поўным ходзе адкруціць, зняць і зноў налажыць кола ў матацыкла (верхні здымак).

---

ціцца, — сказаў ён Модэлю ў кабінеце Майера, дзе за бутэлькай добрага мозельскага віна яны абмяркоўвалі вынікі следства.

— А чаму вы думаеце, што фірма «П'ер Лярус і сыны» мае нейкую сувязь са справай Дзюпона? — спытаў Майер.

— Зараз растлумачу, — ахвотна згадзіўся Фаут. — Мы высветлілі, што Дзюпон часта выязджаў у Парыж. У радыёграмах высланых у Парыж перадатчыкам з Муленбека, пададзены тэрміны сустрэч «Кента» з «Жыльберам». Даныя гэтыя адпавядаюць датам выездаў Дзюпона ў Парыж. Апрача таго; парыжскія радыёстанцыі перадаюць у свой Цэнтр у Савецкім Саюзе многа звестак аб будаўніцтве Атлантычнага вала і дыслакацыі нямецкіх часцей на тэрыторыі Францыі. Звесткі такога характару мог мець толькі чалавек, які падтрымліваў адносіны з нашымі ўладамі ў акупіраванай Францыі і карыстаўся іх поўным давер'ем. Калі Дзюпон падтрымліваў кантакты з фірмай «П'ер Лярус і сыны», то вельмі верагодна, што «Жыльбер» з'яўляецца супрацоўнікам гэтай фірмы. *(Працяг будзе)*




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Паўгода таму я пазнаёмілася з хлопцам з суседняй вёскі. Ён працуе ў горадзе, але кожны тыдзень прыязджае дахаты. Часта наведвае мяне. Мне ён падабаецца, і я яму таксама.

Ужо хутка ў гэтай вёсцы, дзе жыве Васька (так называецца мой хлапец), будзе свята і вялікая забава. Мае сяброўкі таксама на яе выбіраюцца. Намаўляюць і мяне. Аднак я баюся. Бацькі майго хлопца не хочуць, каб ён са мною жаніўся. Раяць яму багатую. Аднак Васька кахае мяне і ўвогуле не слухае бацькоў. Васька абяцаў, што мусіць мяне з забавы прывесці дадому на вячэру. А як я там пайду, калі мяне не хочуць? І таму я пастанавіла, што лепш будзе, калі я ўвогуле не пайду.

**Ірэнка**
з Бельскага павета

**Дарагая Ірэнка!** Ты павінна пайсці з сяброўкамі на забаву, але не мусіш ісці да бацькоў Васі. Бо напэўна будзеш дрэнна сябе там адчуваць і нервавацца. Лепш там у хату не ісці. Вытлумач аб гэтым Васі, і ён напэўна зразумее цябе. А калі ёсць аказія, каб пабачыцца і патанцаваць з каханым, дык чаму ж маеш яе адкінуць. Напэўна ж будзеш на абедзе ў сваякоў ці сяброўкі, там і павячэраеце.

Жадаю прыемнай забавы **Сэрцайка.**

## Кантрактацыя грэчкі

У Слабодцы малаўраджайныя землі. На іх найлепш расце грэчка. І таму многія гаспадары кантрактуюць грэчку і маюць з гэтага многа даходу. М. Зубрыцкі і С. Харкевіч штогод кантрактуюць каля 1,5 га грэчкі. Нараўскі ГС за 1 цэнтнер грэчкі плаціць 770 зл. і адпісвае 2 цэнтнеры збожжа з абавязковых паставак.

**М. Сухадола**
Слабодка

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, у сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (ў злотых).

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт | 350 | 230 | 300 |
| пшаніца | | 450 | 440 | 450 |
| яйкі | 1 шт | 2,10 | 2,00 | 1,80 |
| масла | кг | 60 | 55 | 55 |
| ялавічына | кг | 33 | — | — |
| свініна | кг | 44 | 38 | 35 |
| сала | кг | 33 | 37 | 35 |
| бульба | кг | 0,90 | 0,70 | 0,80 |
| цыбуля | кг | 5 | 5 | 4 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 2 |
| капуста | кг | 0,90 | 1,50 | 1 |
| морква | кг | 2,50 | 2 | 2 |

# КІНО

Праграма
на 1—6. XI. 196» г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Wierność" (radz.), 1—2. „Uwaga, czarny kot" (radz.), 3—4. „Ojcowizna" (radz.), 5—6.

**Кляшчэлі**
„Błękitny krzyż" (polski), 1—2. „Fatalny list" (angl.), 3—4. „Wystrzał" (radz.), 5—6.

**Дубіны**
„Dwie noce jednego dnia" (jugosł.), „Giuseppe w Warszawie" (polski), 5—6.

**Нарва**
„Milczenie" (polski), „Kronika jednego dnia" (radz.), 4—6.

**Нараўка**
„Miłość jednej nocy" (radz.), „Dylemat" (duński), 4—6.

**Чыжы**
„Mam 20 lat" (radz.), „Kiermasz" (NRF), 4—6.

**Дубічы Царкоўныя**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 4—6.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Jesienny dzień" (wietnamski), „Kapral i inni" (węgierski), 4—6.

**Орля**
„Kto sieje wiatr" (USA), „Dwadzieścia godzin" (radz.), 4—6.

**Райск**
„Mam tu swój dom" (polski), „Artysta do wszystkiego" (radziecki), 4—6.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Obcy ludzie" (radz.), „Świadectwo dojrzałości" (radz.), 4—6.

**Міхалова**
„Ojcowizna" (radziecki), 1—2. „Bajka o mrozie czarodzieju" (radz.), 3—4. „Wierność" (radz.), 5—6.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Wielki skok" (franc.), 1—2. „Kwiecień" (polski), 3—4. „Pieczone gołąbki" (polski), 5—6.

**Мілейчыцы**
„Porucznik Marynin" (radz.), 1—2. „A jednak cię kocham" (radz.), 3—4. „Obcy ludzie" (radziecki), 5—6.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Tytoń" (bułg.), 1—2. „Następcy tronów" (włoski), 3—4. „Złoto" (polski), 5—6.

**Шудзялава**
„Najdroższa" (radz.), „Okres próbny" (radz.), 4—6.

**Сідра**
„Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 1—2. „Pojedynek" (radz.), 3—4. „Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 5—6.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Małpia kuracja" (USA), „Gdzie twoje miejsce" (czeski), 5—6.

**Ліпск**
„Król strzelców" (włoski), „Dom z facjatą" (radz.), 5—6.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 6863 Błtk D-1

